№ 81 (3924)
17 кастрычніка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Ідзе падпіска на газеты і часопісы на першую палову 2015 года.*

# Ці патрэбны Беларусі расійскія ваенныя базы?



*У Беларусі ў 2016 годзе будзе створана яшчэ адна расійская авіябаза, на якой стануць базіравацца знішчальнікі Су-27.*

*Пра гэта паведаміў галоўнакамандуючы Ваенна-паветраных сіл Расіі **Віктар Бондараў**. Беларускія афіцыйныя асобы нават не лічаць неабходным інфармаваць грамадскасць пра падобныя намеры.*

*Як высветлілася, ваенны аэрадром у Бабруйску будзе рэканструяваны, расійскія спецыялісты падрыхтавалі ўжо тэхнічнае заданне на правядзенне гэтых работ, растлумачыў Віктар Бондараў, перадае ТАСС.*

*Яшчэ некалькі знішчальнікаў Су-27, як расказаў усё той жа Віктар Бондараў, размесцяць у Баранавічах, дзе ўжо створана расійская авіябаза. Толькі ці патрэбны нам гэтыя расійскія аты-баты, тым больш што адносіны ўсходняй суседкі з многімі краінамі свету абвастраюцца? Зараз усе, нават партнёры па СНД, наадварот, стараюцца пазбавіцца ад расійскіх вайскоўцаў.*

## Патэнцыяльная пагроза

Як беларусы ставяцца да прысутнасці ў краіне расійскіх авіябаз?

Гэта спрабавалі даведацца ў простых людзей актывісты кампаніі "Народны рэферэндум".

Актывісты "Народнага рэферэндуму", які ініцыяваны рухам "За Свабоду", кампаніяй "Гавары праўду!", Партыяй БНФ і падтрыманы БСДП (Грамада) і аргкамітэтам па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу, днямі перадалі ў Палату прадстаўнікоў каля 50 тысяч подпісаў у падтрымку неабходнасці правядзення рэферэндуму.

Сярод іншых на магчымы рэферэндум прапануецца вынесці і такое пытанне: *"Ці згодны вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не павінны несці службу за мяжой?"*

Натуральна, падчас збору подпісаў у актывістаў была магчымасць пачуць ад простых беларусаў іх меркаванні з гэтай нагоды. Якія яны?

— Па гэтай праблеме адчуваецца дынаміка, — кажа намеснік старшыні руху "За Свабоду" **Юрась ГУБАРЭВІЧ**. — Мы пачалі збор подпісаў яшчэ вясной гэтага года, напярэдадні выбарчай кампаніі ў мясцовыя Саветы. І тады большасць людзей наогул не лічыла, што пытанне прысутнасці расійскіх авіябаз у Беларусі вельмі актуальнае для краіны, хоць шмат было і тых, хто прытрымліваўся нейтральнай пазіцыі. Але ў апошнія месяцы мы заўважылі змену настрояў. Усё больш беларусаў разумеюць, што наяўнасць чужых вайсковых баз — гэта патэнцыяльная пагроза для краіны, якую могуць уцягнуць у ваенны канфлікт. Гэтыя назіранні, дарэчы, былі пацверджаны і вынікамі некаторых сацыялагічных апытанняў. Яны паказваюць, што расце колькасць людзей, якія выступаюць супраць прысутнасці расійскіх вайскоўцаў на тэрыторыі Беларусі.

**— А ці шмат было тых, хто выступае за расійскія авіябазы?**

— Шчыра скажу, дастаткова. Яны выступаюць не толькі за авіябазы, а наогул за шчыльную інтэграцыю з Расіяй і лічаць, што тут ніякай пагрозы для нас няма. Гэта людзі сталага ўзросту, ваенныя, якія для сябе даўно ўсё вырашылі. Альбо ім у гэтым дапамаглі расійскія тэлеканалы. А вось моладзь, на жаль, расчаравала. Шмат маладых людзей жывуць у сваім свеце лакальных праблем і абсалютна не цікавяцца грамадскімі праблемамі краіны. Хоць, натуральна, назіранні падчас збору подпісаў — гэта не нейкае сацыялагічнае даследаванне. Гэта проста нашы назіранні.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

ЧУЛІ?

## Юрый Рубцоў — палітвязень

Форум "Палітвязні Беларусі" прызнаў гамяльчаніна **Юрыя РУБЦОВА** палітычным вязнем.

Нагадаем: Юрыя Рубцова неаднойчы затрымлівалі за майку з надпісам "Лукашэнка, сыходзь!" і потым судзілі. Сёлета пасля "Чарнобыльскага шляху" ён адседзеў 25 сутак арышту. Адразу пасля гэтага супраць Рубцова завялі крымінальную справу па артыкуле 391 — абраза суддзі.

Суд Цэнтральнага раёна Мінска пакараў Рубцова абмежаваннем волі на паўтара года. Пакуль ён знаходзіцца ў Гомелі. На так званую "хімію" Юрый Рубцоў накіруецца толькі пасля таго, як адбудзецца разгляд яго касацыйнай скаргі.

Такім чынам, палітвязняў у Беларусі становіцца не меней, а болей. Хаця іх наяўнасць — гэта галоўная праблема, якая стрымлівае паляпшэнне адносін паміж Беларуссю і цывілізаваным светам.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ШЧЫРА

## Праца без выхадных. Заробак — 14 мільёнаў

Два месяцы таму Мечыслаў Гой, які дагэтуль узначальваў райвыканкам у Смаргоні, быў прызначаны кіраўніком Гродзенскага гарвыканкама. Пакуль чыноўнік дэманструе адкрытасць і добра ставіцца нават да пытанняў пра асабістыя заробкі і маёмасць.

— Я пабудаваў дом у Смаргоні, — расказаў Мечыслаў Гой журналістам. — Узяў крэдыт на 40 год пад 1%. Такі быў крэдыт, якім карысталіся практычна ўсе жыхары Смаргоні. Мой заробак — 14 млн рублёў у месяц. Працую я без выхадных. На першы погляд праца старшыні можа быць незаўважнай. Але калі бачыш поспехі ў адукацыі, медыцыне, калі паступае менш скаргаў, думаеш: і мая заслуга ў гэтым ёсць...

СКАЗАНО!

## Александр ЛУКАШЕНКО:



*"Хочет народ — пусть голосует, не хочет — не надо. Пускай избирают другого человека. Должно быть все честно. На это надо ориентироваться, настраиваться и не подстраиваться ни под какие выборы. Жизнь должна идти своим чередом".*

***

**Как говорят, эти слова да Богу в уши!**

**"Должно быть все честно..."**

**Не этого ли ждут миллионы белорусов? А чтобы выборы были действительно честными, демократичными, немного-то и надо — избирательные комиссии должны состоять не только из тех, кто рьяно выполняет любые установки власти, а также из представителей кандидатов в президенты. Отменив досрочное голосование, также можно будет считать, что исключается одна из возможностей фальсификации результатов волеизъявления народа. И, конечно же, подсчет голосов должен быть прозрачным, под контролем наблюдателей.**

**Так, Александр Григорьевич, всё должно быть честно!**

НУ І НУ!

## Дыплом юрыста каштуе больш за 200 мільёнаў?

### Віцэ-прэм'ер Беларусі Анатоль Тозік выступіў з чарговай ініцыятывай. Гэтым разам ён прапанаваў, каб студэнты-платнікі цалкам плацілі за сваё навучанне.

*"Звяртаю ўвагу рэктараў на тое, што платная форма навучання не павінна быць стратнай"*, — сказаў А.Тозік на пасяджэнні рабочай групы па комплексным аналізе стану сістэмы адукацыі і Рэспубліканскага савета рэктараў, якое днямі прайшло на базе Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. *"Калі захоўваць падрыхтоўку "платнікаў", то студэнты павінны цалкам пакрываць выдаткі за сваё навучанне, а не так, як гэта адбываецца сёння, калі палову выдаткаў бярэ на сябе дзяржава*, — акрэсліў сваю пазіцыю **Анатоль Тозік**. — *Бо гэта ўжо можна расцэньваць як нямэтавае выкарыстанне бюджэтных сродкаў".*

Што ж атрымліваецца, дзяржаўныя ВНУ фінансуюцца за кошт бюджэту, аказваюць платныя паслугі, і гэта, аказваецца, яшчэ "нямэтавае выкарыстанне бюджэтных сродкаў"? А платная адукацыя ў Беларусі дасягнула ўжо вар'яцкіх цэн! Мяркуйце самі. Год навучання ў Беларускім дзяржаўным універсітэце каштуе ад 19,7 мільёна да 22,9 мільёна ў год. Папулярныя факультэты БДУ — юрыдычны, эканамічны, міжнародных адносін — паднялі сёлета кошты да 20 мільёнаў 880 тысяч. Амаль столькі — ад 19 да 20 мільёнаў — павінны плаціць студэнты-платнікі БДУІР. Дый што там вышэйшыя навучальныя ўстановы! Сталічная гімназія-каледж мастацтваў выставіла для навучэнцаў-першакурснікаў цэннік 20 мільёнаў 684 тысячы!

Калі, па логіцы Тозіка, павялічыць плату за навучанне ўдвая, то, напрыклад, будучым юрыстам прыйдзецца плаціць ажно 42 мільёны рублёў у год, значыць, за ўвесь час навучання ў БДУ — 210 мільёнаў (гэта на сённяшні дзень, але кошты растуць ледзь не кожныя паўгода)! Высокі кошт дыплома, пагадзіцеся. І гэта ў краіне, дзе сярэдняя зарплата складае ўсяго толькі 6 мільёнаў! У краіне, дзе да якасці вышэйшай адукацыі маюць прэтэнзіі і студэнты, і бацькі, і — што самае галоўнае — працадаўцы. У краіне, адток абітурыентаў з якой апошнім часам значна павялічыўся. Паводле дадзеных ЮНЕСКА, каля 30 тысяч беларусаў вучацца за мяжой.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Пасля раку — жыццё!

*20 кастрычніка ў 19.00 у малой зале к/з "Мінск" адбудзецца прэзентацыя кнігі "Жыццё пасля раку" з удзелам гуртоў NAVI, RECHA і RAHIS. Уваход вольны. Кніга выйшла ў серыі "Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе". "Жыццё пасля раку" — гэта 22 гісторыі анкалагічных хворых, якія ўсвядомілі, што смерць можа быць блізка, але і жыццё ў такой сітуацыі набывае іншы сэнс. Гэтая імпрэза распачне кампанію "ПеРАКможам", мэта якой паказаць, што рак — не прысуд, і сабраць як можна больш пазітыўных прыкладаў перамогі над гэтай хваробай.*

*Ідэя праекта "Жыццё пасля раку" належыць журналістцы Радыё Свабода **Ганне Соусь**. Яна ж і ўкладальніца кнігі.*



**— Ганна, чаму ты вырашыла звярнуцца да гэтай тэмы?**

— Жыццё перад тварам смерці. У адрозненне ад пісьменнікаў журналістам нячаста даводзіцца распрацоўваць гэтую тэму... У маі 2013 года ў перадачы "Свабода без гальштукаў" на тэму "Як гаварыць пра рак?" старшыня рады Беларускай арганізацыі працоўных жанчын Ірына Жыхар расказала, як яе запрасілі паўдзельнічаць у перадачы тэлеканала АНТ, прысвечанай анкалогіі, і рэдактары прызналіся, што яна аказалася адзінай, хто пагадзіўся публічна расказаць пра сваю хваробу. Я тады падумала: а чаму б не паспрабаваць змяніць сітуацыю? У амерыканскую газету New York Times некалькі тысяч чалавек даслалі свае фота і гісторыі жыцця пасля раку для праекта Your Life After Cancer ("Ваша жыццё пасля раку"). У Беларусі каля 250 тысяч чалавек маюць анкалагічны дыягназ. *"95% людзей утойваюць тое, што яны хварэюць на рак. Але калі хто памрэ, пра гэта ведае паўгорада. А тое, што ён лячыўся 10 гадоў, не лічыцца. З тысячы хворых на рак шчытападобнай залозы летась памерла сем чалавек. У нас маса пацыентаў, якія вылечыліся"*, — распавядаў некалі галоўны ўрач Мінскага анкадыспансера Уладзімір Каранік. Няўжо ў Беларусі так мала людзей, якія вылечыліся ад раку і якія могуць расказаць пра гэта, падзяліцца каштоўным досведам? Гэта быў выклік, які нельга было не прыняць.

**— І наколькі складана было знайсці такіх людзей, пераканаць іх падзяліцца сваімі гісторыямі?**

— Напачатку я паглядзела, як адлюстроўваецца тэма анкалагічных захворванняў у беларускіх медыях. Сітуацыя выглядала, на маю думку, досыць песімістычна. Статыстыка да розных дат, кожны трэці некралог звязаны з анкалогіяй, рэдкія інтэрв'ю з анколагамі і шмат інтэрпрэтацый датычнасці чарнобыльскага складніка да Беларусі. Хаця, як кажуць аўтарытэтныя беларускія анколагі, колькасць анкалагічных захворванняў цяпер у Беларусі прыкладна такая ж, як у еўрапейскіх краінах. Рак у пэўнай ступені — цывілізацыйная хвароба, звязаная сярод іншага і з павелічэннем працягласці жыцця чалавека. У Беларусі традыцыйна людзі ўтойваюць, што яны маюць анкалагічныя хваробы, і дыягназ "рак" успрымаецца многімі як прысуд. Мэтай гэтага праекта было змяніць гэты стэрэатып і расказаць пра людзей, якія перамаглі хваробу і лічаць, што гэтае выпрабаванне змяніла і ўдасканаліла іх жыццё.

Напачатку многія паглядзелі на такую ідэю скептычна. І найперш — з пункту гледжання выканання. Меркавалася, што калі зможам пераканаць расказаць пра сябе хаця б пяць-шэсць чалавек, то гэта будзе вялікім поспехам. Аказалася таксама, што цяжка гаварыць на гэтую тэму не толькі хворым, але і здаровым. У тым ліку — прафесійным журналістам. Некаторыя лічылі некарэктным гаварыць з анкалагічнымі хворымі пра рак, нібыта са смяротнікамі: "Не этычна..." Некаторыя баяліся сурочыць: "Не трэба чапаць гэтую тэму, гэтых людзей, гэтую хваробу, каб чаго не выйшла..." Некаторыя проста не хацелі павялічваць боль: "Навошта бярэдзіць незагойную рану, калі ўсё роўна не дапаможам?.."

Памыліліся ўсе. У выніку аказалася, што з верасня 2013 года па люты 2014-га не пяць, а 22 чалавекі падзяліліся сваімі гісторыямі жыцця пасля раку. Кожны тыдзень на сайце і ў эфіры з'яўлялася новая гісторыя. Змяніць традыцыю было, канешне, не так проста. Я шукала герояў для "Жыцця пасля раку" паўсюль, звярталася да людзей праз "Фэйсбук", вяла доўгую перапіску з патэнцыйнымі героямі, і шмат хто адмаўляўся гаварыць альбо прасіў пачакаць. На другі-трэці месяц стала лягчэй. Адны героі праекта рэкамендавалі іншых, вялікая частка гісторый — гэта ўдзельнікі груп падтрымкі анкапацыентаў з Мінска, Смаргоні, Клічава і Бабруйска.

Сярод герояў "Жыцця пасля раку" — музыкант, банкір, клоўн, палітычны актывіст, тэатральны крытык, настаўніца англійскай мовы, святар, пенсіянер... Гэта людзі розных узростаў, інтарэсаў, перакананняў, сацыяльных статусаў. Нашы карэспандэнты Алесь Асіпцоў, Алесь Дашчынскі, Аляксандра Дынько, Аляксей Знаткевіч, Ігар Карней і Іна Студзінская ўмелі слухаць і запісваць гісторыі герояў "Жыцця пасля раку". У кнізе сабраны гісторыі 22 чалавек. Гэтыя людзі падзяліліся рэцэптам перамогі над ракам. І гэта толькі пачатак. Бо такіх людзей у Беларусі значна больш.

**— Ганна, а якая была рэакцыя на гэты праект з боку ўрачоў? Яны ведалі пра вашу ініцыятыву? Падтрымалі яе?**

— Загадчык аддзела арганізацыі супрацьракавай барацьбы Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Павел Маісееў быў адным з першых, хто прачытаў гэтыя гісторыі і напісаў пасляслоўе да кнігі: *"Яшчэ дзесяць, нават пяць гадоў таму такое проста нельга было ўявіць, каб людзі ў нашай краіне публічна, не хаваючыся, распавядалі пра сваю хваробу, пра "чуму XXI стагоддзя" — рак".* Павел Маісееў адзначыў пазітыўны эфект ад такіх публікацый: *"Людзі пачынаюць цікавіцца праблемай ракавых захворванняў, пазнаюць нешта новае для сябе, кажучы медыцынскай мовай, павышаюць сваю "анкалагічную пісьменнасць". Тут абсалютна дарэчы прынцып: "Хто інфармаваны — той узброены!"*

...Кожнага з нас можа напаткаць анкалагічная хвароба. Ніхто не застрахаваны. Як мы будзем яе ўспрымаць? Як прысуд, як трагедыю, як канец жыцця? Альбо як выпрабаванне, як магчымасць пераасэнсавання, іншай расстаноўкі жыццёвых прыярытэтаў і каштоўнасцяў? Героі праекта "Жыццё пасля раку" шчыра расказалі нам свае гісторыі і падзяліліся сваім вопытам. Галоўны вынік праекта "Жыццё пасля раку" на Радыё Свабода — рэальныя галасы надзеі, жывая сіла салідарнасці і сапраўдная практыка перамогі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**



ГУЧНАЯ СПРАВА

# Што скажа Феміда?

*У Мінскім абласным судзе працягваюцца слуханні па справе былога генеральнага дырэктара ААТ "Барысаўдрэў" **Уладзіміра Мальцава***

Нагадаем, што былы генеральны дырэктар абвінавачваецца па ч.3 арт.424 Крымінальнага кодэкса Беларусі — злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі ў ходзе выканання дзяржпраграмы па мадэрнізацыі прадпрыемства, якое прывяло да цяжкіх наступстваў у выглядзе нанясення ўрону ў асабліва буйным памеры. Сярод наступстваў дзеянняў гендырэктара пракуратура выставіла зрыў тэрмінаў рэалізацыі дзяржаўнай праграмы па мадэрнізацыі.

Абвінавачанне, па сутнасці, складаецца з двух эпізодаў. Першы тычыцца закупу і мантажу для прадпрыемства двух паравых катлоў вытворчасці турэцкай фірмы. Мальцаў нібыта забяспечыў гэтай фірме перамогу ў тэндары на пастаўку катлоў, хоць былі іншыя пастаўшчыкі. Потым, паводле меркавання следства, туркі несвоечасова прадставілі дакументацыю, спазніліся з пастаўкай катлоў, не мелі дазволу на мантаж абсталявання. А Мальцаў, як вынікае з абвінавачання, іх прыкрываў дзеля "кар'ерных меркаванняў", "дзейнічаў насуперак эканамічнай мэтазгоднасці". У выніку былі сарваны тэрміны мадэрнізацыі "Барысаўдрэва", якія прызначыў урад і асабіста Аляксандр Лукашэнка, а прадпрыемства панесла страты больш як на 16 мільярдаў рублёў.

Прыкладна такая ж фабула і ў другім эпізодзе — з лініяй для сушкі запалкавай саломкі, толькі тут ужо фігуруе шведская фірма.



Сёння ж на судзе тыя сведкі, якія мелі дачыненне да закупкі кацельнага абсталявання, заяўляюць, што не сумняваюцца ў законнасці правядзення конкурсу. Многія не пацвярджаюць і пазіцыю абвінавачання, што экс-кіраўнік "Барысаўдрэва" злоўжываў службовым становішчам. А былы намеснік генеральнага дырэктара па вытворчасці Жук наогул заявіў, што Мальцаву *"трэба помнік паставіць за тое, што ён узваліў на сябе такі цяжар".*

Дарэчы, сведкамі па справе, як паведамляюць naviny.by, праходзяць і высокія службовыя асобы, якія курыравалі мадэрнізацыю. Кажуць, што сярод іх першы намеснік прэм'ер-міністра **Уладзімір Сямашка** і былы старшыня Мінскага аблвыканкама **Барыс Батура**.

І яшчэ адзін цікавы момант адносна таго, што работы на мантаж абсталявання было даверана праводзіць турэцкай фірме.

*"У вытворчым ланцужку асоб, адказных за гэтае рашэнне, Уладзімір Мальцаў не быў галоўным,* — пішуць naviny.by. — *Гэтаму ёсць дакументальнае пацвярджэнне. Цяжка сказаць, ці маецца гэты дакумент у матэрыялах крымінальнай справы Мальцава, але відавочна, што ён там не залішні. 29 красавіка 2013 года Савет міністраў прымае пастанову №324 "Аб унясенні змяненняў у пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 4 мая 2012 г. №413". Дакумент унікальны і прысвечаны выключна выхаду з тупіковай сітуацыі, якая склалася на "Барысаўдрэве". Пастановай урада турэцкая кампанія Bersey прызнаецца (чытай — прызначаецца) падраднай арганізацыяй. Дакумент падпісаў кіраўнік урада Міхаіл Мясніковіч. А калі ўдзел замежнай кампаніі ў мантажы абсталявання быў узгоднены і прыняты на такім высокім узроўні, то ў чым тады вінаваты Мальцаў?.."*

Адным словам, у гэтай справе пытанняў пакуль больш, чым адказаў. Апошняе слова павінен сказаць суд...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

*Национальный правовой Интернет-портал Республики Беларусь, 03.05.2013, 5/37200*

ПОСТАНОВЛЕНИЕ СОВЕТА МИНИСТРОВ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
29 апреля 2013 г. № 324

**О внесении изменения в постановление Совета Министров Республики Беларусь от 4 мая 2012 г. № 413**

Совет Министров Республики Беларусь ПОСТАНОВЛЯЕТ:

1. В приложении к постановлению Совета Министров Республики Беларусь от 4 мая 2012 г. № 413 «Об определении перечня объектов, включенных в Государственную программу строительства энергоисточников на местных видах топлива в 2010–2015 годах, генеральная проектная организация, генеральная подрядная организация, субподрядные проектные, строительные и иные организации на строительство которых определяются без проведения подрядных торгов» (Национальный реестр правовых актов Республики Беларусь, 2012 г., № 53, 5/35654; № 68, 5/35825; Национальный правовой Интернет-портал Республики Беларусь, 05.04.2013, 5/37086) позицию

| | | | |
|---|---|---|---|
| «Открытое акционерное общество «Борисовдрев» (г. Борисов) | минское областное коммунальное унитарное предприятие «Институт «Борисовпроект» (г. Борисов) | открытое акционерное общество «Строительный трест № 21» (г. Борисов) | открытое акционерное общество «Центроэнергомонтаж» (г. Минск), открытое акционерное общество «Трест Белпромналадка» (г. Минск)» |

заменить позицией

| | | | |
|---|---|---|---|
| «Открытое акционерное общество «Борисовдрев» (г. Борисов) | минское областное коммунальное унитарное предприятие «Институт «Борисовпроект» (г. Борисов) | открытое акционерное общество «Строительный трест № 21» (г. Борисов) | открытое акционерное общество «Центроэнергомонтаж» (г. Минск), открытое акционерное общество «Трест Белпромналадка» (г. Минск), компания «Bersey» (Турецкая Республика)». |

2. Настоящее постановление вступает в силу со дня его официального опубликования.

**Премьер-министр Республики Беларусь** **М.Мясникович**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## *Алена МАЛЬЦАВА:* *«Яны не ўлічылі, наколькі муж сумленны чалавек»*

*Жонка экс-дырэктара "Барысаўдрэва" Алена Мальцава распавяла пра мужа, суд і тое, як у іх шукалі золата і брыльянты.*

Сям'я Мальцавых жыве ў Барысаве ў двухпавярховым катэджы, які абшыты сайдынгам. Гаспадыня тлумачыць, што муж спраектаваў і пабудаваў дом практычна адзін. Сам зрабіў зруб, сам яго прывёз... Памочнікаў запрашалі рэдка. Засяліліся яны сюды задоўга да гісторыі з "Барысаўдрэвам", а да гэтага сем гадоў жылі ў інтэрнаце.

На ўчастку ля дома няма акуратна пастрыжанага газона і жывой агароджы з туі. Сабачая будка, лазня, альтанка, грады з трускалкамі і плот, які пакасіўся, — ландшафтных дызайнераў сюды яўна не запрашалі.

Каля дома — старэнькі аўтамабіль "Вольва". У сям'і дзве машыны, апошнюю — "Опель" — часткова ўзялі ў крэдыт. Уся маёмасць арыштавана і перададзена **Алене МАЛЬЦАВАЙ** на захоўванне.

*— Я сказала б, што муж наогул паталагічна сумленны чалавек,* — прыводзіць словы жанчыны tut.by. — *Ну вы ж бачыце, як мы жывём. У мяне два агароды, на якіх саджаю бульбу, буракі, — усё, як у звычайнай сям'і. Ён ведаў, што хабар не бярэ, людзей агарод мне капаць не запрашае, таму ніякіх апасенняў у яго не было. Усё, што мы куплялі на заводзе, напрыклад дошкі для альтанкі, праводзілі праз краму, я захавала ўсе квітанцыі...*

*...Калі яго арыштоўвалі, "пад шумок", я не ведаю, як гэта інакш назваць, мяне абавязалі аплаціць шмат штрафаў за мужа. Пры гэтым, калі я яму расказваю, за што плачу, ён тлумачыць мне, што ўсе дакументы ў яго павінны быць у парадку. Ён зараней збіраў усе копіі, але Следчы камітэт іх забраў, таму я не магу праверыць, за што плачу...*

*...Пасля таго, што здарылася, нават плакаць не магу. Калі плачаш, значыцца, ідзе працэс расслаблення. У нашай сітуацыі, акрамя мяне, яму дапамагчы няма каму. Калі не я, то адбудзецца нешта страшнае, ён проста апусціць рукі — і ўсё...*



*...На судзе адразу бачна, хто гаворыць праўду, а хто — не. Тыя, хто хоча абвінаваціць мужа, блытаюцца ў паказаннях, і ў іх нічога не атрымліваецца. Асабліва нас з мужам здзівіла абвінавачанне ў "эгаістычным паразіціраванні службовымі паўнамоцтвамі" — гэта поўная бязглуздзіца! Я веру ў тое, што знойдуцца сапраўдныя вінаватыя, калі яны існуюць. Яны хацелі знайсці вінаватага, але не ўлічылі, наколькі сумленны мой муж і наколькі добра да яго ставяцца іншыя людзі. Яшчэ яны думалі, што знойдуць тут нейкае золата ці брыльянты, але не знайшлі...*

АФЕРА

## *19 человек на 30 «квадратах»*

*Госконтроль выявил в Гомеле необычную жилищную аферу и теперь инициирует изменения в законодательстве, чтобы подобное не повторилось.*

Необычную жилищную аферу раскрыли в Центральном районе Гомеля сотрудники Комитета госконтроля. Суть ее состояла в том, что 17 человек "выкупили" долю собственности в признанном непригодным для жилья частном доме площадью всего 31,8 кв.м, чтобы иметь возможность получить льготные кредиты на строительство нормального жилья.

Вскрылась афера после того, как в этом доме произошел пожар. Тогда выяснилось, что в нем зарегистрировано 19 человек, а у 17 из них есть в собственности доля в доме в размере от 20 кв. сантиметров до 7,95 кв. метра. Свои доли собственности они получили по договорам купли-продажи или дарения в 2010—2013 годах.

При этом, естественно, никто из зарегистрированных и собственников в нем не проживал и не собирался его восстанавливать или возделывать участок.

За это время все "собственники" встали на учет нуждающихся в улучшении жилищных условий, а некоторые успели даже получить льготные кредиты и субсидии на внеочередное строительство жилья.

Правовую оценку действиям вышеупомянутых граждан даст прокуратура, а в КГК называют данные сделки купли-продажи мнимыми и не соответствующими законодательству.

В связи с этим Госконтроль инициирует внесение изменений в законодательство для борьбы с подобными мнимыми сделками.

МЕДДАВЕДКА

## *Пайшлі за грыбамі, знайшлі кляшча*

*У верасні колькасць выпадкаў укусаў кляшчоў павялічылася на 56% у параўнанні з вераснем мінулага года, паведаміла энтамолаг Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя **Святлана Яшкова.** Да ўрачоў звярнулася больш за 12 тысяч чалавек, сярод іх 2076 дзяцей.*

Паводле слоў энтамолагаў, рост колькасці тых, хто звярнуўся з укусамі кляшчоў, звязаны з цёплым надвор'ем і багатым грыбным сезонам, калі людзі актыўна наведваюць лес. Але спецыялісты папярэджваюць, што паразіты будуць актыўныя да першага снегу: у спячку кляшчы ўпадаюць толькі пры мінусавай тэмпературы і наяўнасці снежнага покрыва. Напрыклад, у лістападзе мінулага года ў Гродзенскай вобласці кляшчы пакусалі каля сотні чалавек. Былі выпадкі, калі паразіты выходзілі "на паляванне" нават у лютым.

СРАВНИМ!

## *В Беларуси цены растут в два раза быстрее, чем в России и Казахстане*

В сентябре 2014 года по сравнению с августом цены на товары и услуги в странах Таможенного союза и ЕЭП выросли на 0,7%, сообщает Евразийская экономическая комиссия. Самый высокий уровень инфляции традиционно зафиксирован в Беларуси — 1,2%. В России товары и услуги за месяц подорожали на 0,7%, в Казахстане — на 0,5%.

За год (май 2014 года к маю 2013 года) цены и тарифы в ТС и ЕЭП выросли на 8,6%. Россия продемонстрировала 8-процентный рост цен. В Казахстане жизнь подорожала на 7,6%. В Беларуси инфляция разогналась до 20,1%: услуги увеличились в цене на 34,5%, продовольствие — на 22,9%, непродовольственные товары — на 8,3%.

**Индексы потребительских цен на товары и услуги в сентябре 2014 года**
(в % к сентябрю 2013 г.)

| | Все товары и услуги | В том числе: | | |
|---|---|---|---|---|
| | | продовольственные товары | непродовольственные товары | платные услуги |
| Беларусь | 120,1 | 122,9 | 108,3 | 134,5 |
| Казахстан | 107,4 | 107,4 | 108,4 | 106,5 |
| Россия | 108,0 | 111,4 | 105,5 | 106,9 |
| ТС и ЕЭП | 108,6 | 111,6 | 105,9 | 108,4 |

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Як Міхаіл Мяхедка праўду шукае...

Спроба мінчаніна Міхаіла Мяхедкі трапіць на прыём да старшыні Вярхоўнага суда на гэтым тыдні скончылася затрыманнем і штрафам.

Гісторыя Міхаіла Мяхедкі не ўнікальная. Калі коратка, выглядае яна так.

Калі дом спадара Міхаіла прызначылі пад знос, улады прапанавалі яму на выбар — кампенсацыю альбо кватэру. Мужчына выбраў кампенсацыю. Але яму ўсё роўна далі паўтара пакоя ў шматпавярховіку. З гэтага і пачаліся гады безвыніковых судовых разбіральніцтваў і паходаў па інстанцыях...

Прайшоўшы самыя розныя суды і, як ён лічыць, не знайшоўшы справядлівасці, Міхаіл Мяхедка вырашыў дабівацца праверкі Канстытуцыйным судом практыкі прымянення судамі заканадаўства аб прадастаўленні кампенсацыі пры канфіскацыі зямельных участкаў і зносе жылых памяшканняў, якія належаць грамадзянам па праве долевай уласнасці, на адпаведнасць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Пайшоў з гэтым пытаннем на асабісты прыём да старшыні Канстытуцыйнага суда Пятра Міклашэвіча. Той уважліва выслухаў. І параіў звяртацца да кіраўніка дзяржавы як да аднаго з суб'ектаў, упаўнаважаных даручаць Канстытуцыйнаму суду праверку правапрымяняльнай практыкі судоў. Маўляў, самі мы не можам...

З падказкі старшыні галоўнага суда краіны Міхаіл Мяхедка пачаў пісаць лісты Аляксандру Лукашэнку. Вось толькі ў адказ атрымліваў адны адпіскі. І мужчына вырашыў, што ягоныя лісты да кіраўніка дзяржавы не трапляюць, таму ніхто і не звяртае ўвагі на такую важную праблему, якая тычыцца тысяч і тысяч людзей. Што рабіць? Дабіцца асабістай сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, каб перадаць яму свой зварот, як кажуць, з рук у рукі!

Скончылася гэтая спроба ў вельмі сумным месцы.



Вось як апісвае падзеі сам герой гісторыі.

*— 6 жніўня я падышоў да першага пад'езда Адміністрацыі прэзідэнта, які знаходзіцца побач з Аляксандраўскім скверам, і, прадставіўшыся, папрасіў супрацоўніка Службы бяспекі паклікаць старшага. Выйшаў маёр, якому я патлумачыў, што жадаю перадаць зварот да прэзідэнта і што гэта цалкам законнае маё права. Ён адказаў, што не можа нічога ад мяне ўзяць і што прэзідэнта ўвогуле няма. Стаяць жа каля пад'езда забаронена. Тады я заявіў, што пачакаю яго тут, побач, на тратуары, дзе ходзяць людзі, — я ж гэтым нічога не парушаю. Альбо прапанаваў: запрасіце да мяне службовую асобу, якая ўпаўнаважана інфармаваць прэзідэнта.*

У адказ Мяхедку адвялі ў бліжэйшае аддзяленне міліцыі. Там спадара Міхаіла выслухалі, патлумачылі, што Аляксандр Лукашэнка знаходзіцца ў іншай рэзідэнцыі, і адпусцілі. Мяхедка зноў пайшоў на Карла Маркса, 38. І вось цяпер спроба перадаць зварот скончылася накіраваннем у Цэнтр псіхічнага здароўя "Навінкі".

Але адтуль яго адпусцілі на другі ж дзень: цалкам адэкватны чалавек, у паводзінах якога нічога падазронага ўрачы не заўважылі.

*"Я хацеў бы ўзяць партрэт прэзідэнта, прыйсці да будынка Вярхоўнага суда, адкуль я нядаўна атрымаў чарговую адпіску, і стаць там на прыступках",* — прызнаваўся пасля гэтых падзей Міхаіл Мяхедка. І вось у панядзелак, 13 кастрычніка, Мяхедка паспрабаваў патрапіць на прыём да старшыні Вярхоўнага суда. Быў затрыманы супрацоўнікамі аховы ў памяшканні суда і дастаўлены ў суд Ленінскага раёна Мінска. Яго звінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве (арт 23.34 КаАП РБ) і пакаралі штрафам у памеры 15 базавых велічынь...

Дык дзе і як шукаць праўду ў нашай дзяржаве?

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## *Максім ВІНЯРСКІ:* «І нярэдка даведваешся пра абвінавачанне толькі ў судзе, у якім абсалютна нічога не дакажаш»

*Праваабаронцы занепакоены праблемай прэвентыўных затрыманняў у краіне і не выключаюць, што іх можа стаць яшчэ больш падчас чарговай прэзідэнцкай кампаніі.*

На прэс-канферэнцыі, якая была прысвечана гэтай надзённай тэме, праваабаронца **Валянцін Стэфановіч** адзначыў, што прэвентыўныя затрыманні палітычна актыўных грамадзян пачаліся ў Беларусі яшчэ ў 2006 годзе, напярэдадні тагачасных прэзідэнцкіх выбараў.

*"Тады было затрымана 236 чалавек,* — распавёў ён. — *Наступная хваля такіх затрыманняў адзначалася ў 2012 годзе перад прыездам у Мінск расійскіх кіраўнікоў Уладзіміра Пуціна і Дзмітрыя Мядзведзева. А сёлета перад хакейным першынством "пад раздачу" трапілі не толькі палітычныя актывісты, але і спартыўныя фанаты, асацыяльныя элементы, асобы без сталага месца жыхарства ды іншыя катэгорыі грамадзян, якія ўлады палічылі ненадзейнымі".*

Юрыст **Павел Сапелка** дадае, што з юрыдычнага пункту гледжання такія затрыманні з'яўляюцца незаконнымі, ён спадзяецца, што ўлады прыслухаюцца да праблемы.

*"У заканадаўстве дакладна прапісаны выпадкі, у якіх асоба можа быць пазбаўлена волі,* — распавядае эксперт. — *У прыватнасці, адзначаецца, што без здзяйснення адміністрацыйнага правапарушэння могуць быць затрыманы толькі людзі без пэўнага месца жыхарства, каб высветліць іх асобу і пашпартызаваць іх, а таксама асобы з псіхічнымі захворваннямі для перадачы іх у органы аховы здароўя. Усе астатнія затрыманні могуць мець месца толькі ў тым выпадку, калі асоба ўжо здзейсніла грамадска-небяспечнае дзеянне. Што тычыцца адміністрацыйных правапарушэнняў, то чалавека, паводле заканадаўства, могуць затрымаць толькі пасля здзяйснення правапарушэння, але ніяк не па нейкім падазрэнні. Тым не менш у Беларусі такія выпадкі маюць месца, і колькасць іх расце".*

На сустрэчы прысутнічаў і актывіст **Максім Вінярскі**, якога неаднойчы адпраўлялі "на суткі" напярэдадні нейкіх значных падзей у краіне.

*"Пасля 2006 года я фактычна не жыву па месцы сваёй рэгістрацыі,* — расказаў ён журналістам. — *Перад любым мерапрыемствам туды прыходзяць міліцыянеры з мясцовага РУУС, каб адправіць мяне за краты. Раяць маці самой сказаць, дзе я знаходжуся. У выніку — знаходзяць, адпраўляюць у ізалятар... І пасля затрымання чалавек практычна цалкам выключаны з прававога поля. Можна шмат пісаць у метадычках, якія правы ты маеш у міліцэйскім пастарунку, але рэалізаваць іх у рэальнасці проста немагчыма. Могуць асудзіць за хуліганства, могуць за непадпарадкаванне работнікам міліцыі. І нярэдка даведваешся пра абвінавачанне толькі ў судзе, у якім абсалютна нічога не дакажаш. Ёсць сведчанні міліцыянераў, а больш суддзяў нічога і не цікавіць. Такім чынам, калі цябе захочуць ізаляваць на пэўны час, то для ўлады гэта не складае ніякіх праблем".*

Валянцін Стэфановіч канстатаваў, што апошнім часам актывістаў абвінавачваюць не толькі ў быццам бы нецэнзурнай лаянцы ці спраўленні натуральнай патрэбы ў грамадскім месцы, як гэта было ў папярэднія гады, але і ў знаходжанні ў грамадскім месцы ў стане алкагольнага ап'янення. Праваабаронца не выключае, што падчас прэзідэнцкай кампаніі прэвентыўных затрыманняў стане яшчэ больш.

*"Такая вось у нас дэмакратыя на фоне некаторага пацяплення з Захадам",* — з сумам дадаў ён.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### ТЫМ ЧАСАМ

*Беларускія і замежныя праваабаронцы распачалі кампанію ў падтрымку Паўла Вінаградава, які зараз знаходзіцца ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў пад 15-суткавым адміністрацыйным арыштам.*

*Было зафіксавана 16 выпадкаў затрымання маладзёжнага актывіста пасля яго вызвалення ў 2011 годзе з калоніі. 15 з іх скончыліся адміністрацыйнымі арыштамі тэрмінамі ад 5 да 25 сутак, што сумарна складае 165 сутак — фактычна 5 з паловай месяцаў. З іх на бягучы год, уключна з цяперашнім арыштам, выпала 65 сутак зняволення.*

*Каб далучыцца да кампаніі, можна:*

*— зрабіць пост з тэгам **#freeVinagradau**, сфатаграфавацца з партрэтам Паўла Вінаградава (для друку яго можна спампаваць на сайце spring96.org) і выкласці яго ў сацыяльных сетках, а таксама выказаць сваё меркаванне наконт гэтай праблемы;*

*— запісаць відэа ў падтрымку Паўла і выкласці яго ў сацсеткі з тэгам **#freeVinagradau**;*

*— даслаць актывісту паштоўку салідарнасці ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў: 220089 г.Мінск, 1-ы завулак Акрэсціна, 36.*

З-ЗА КРАТАЎ

## *Андрэй Бандарэнка разлічвае на перагляд справы*

Праваабаронцу **Андрэя Бандарэнку** пачалі зноў наведваць следчыя.

Бацька Андрэя Валерый Бандарэнка сказаў "Народнай Волі", што сын рэгулярна піша і ў апошнім лісце паведаміў пра гэтыя візіты. Андрэй напісаў бацьку, што адмаўляецца ад усялякіх размоў, пакуль не адбудзецца суд па ягонай касацыйнай скарзе, прызначаны на 21 кастрычніка.

Паводле слоў бацькі, Андрэй атрымлівае ўсе перадачы, на здароўе не скардзіцца. Што да ўмоў утрымання, то ён знаходзіцца ў камеры з яшчэ двума арыштаванымі. Зразумела, спадзяецца на змяненне прыгавору.

Нагадаем: 11 красавіка Андрэя Бандарэнку затрымалі і змясцілі ў следчы ізалятар. 12 жніўня яго абвінавацілі ў злосным хуліганстве і пакаралі зняволеннем на чатыры гады. З-за амністыі тэрмін пакарання скараціўся да трох гадоў.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЗНАЁМЦЕСЯ

# Ізаляцыі канец?

***Агнешка Казлоўска-Раевіч** узначаліла рабочую групу па справах Беларусі ў Парламенцкай асамблеі Еўранэст.*

У сваім выступленні пасля прызначэння еўрадэпутат адзначыла, што будзе імкнуцца працягваць супрацоўніцтва з краінамі на ўсход ад Еўрасаюза. Еўропа павінна выпрацаваць новыя стратэгіі супрацоўніцтва ў гэтым рэгіёне, паколькі там адбываюцца вельмі дынамічныя змены, адзначыла Казлоўска-Раевіч. Еўрадэпутат таксама сказала, што стратэгія поўнай ізаляцыі ў дачыненні да Беларусі не прынесла вынікаў, што яна вычарпана.



У Парламенцкай асамблеі Еўранэст, у межах якой працуе рабочая група па справах Беларусі, цяпер 110 дэпутатаў: 60 — гэта еўрадэпутаты і па 10 прадстаўнікоў парламентаў з краін Усходняга партнёрства апрача Беларусі, паколькі парламенцкія выбары не былі прызнаны міжнароднай супольнасцю.

У рабочай групе па справах Беларусі месца дэпутатаў занялі прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі.

АКЦЫІ

## *Ці дазволяць?*

Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя — БНФ падала заяўкі ў Мінгарвыканкам і Мінаблвыканкам на правядзенне 2 лістапада традыцыйных шэсця і мітынгу, прысвечаных ушанаванню памяці продкаў — "Дзяды".

Народная Воля http://www.nv-online.info 17 КАСТРЫЧНІКА 2014 г.

ЗНАКОМЬТЕСЬ!

# Жан Тироль — нобелевский лауреат

*Один из самых влиятельных ученых нашего времени французский экономист Жан Тироль из университета Тулузы стал лауреатом Нобелевской премии по экономике за 2014 год. Так высоко оценены его работы по анализу рыночного регулирования.*



В заявлении Нобелевского комитета говорится, что работы Тироля позволили значительно улучшить регулирование отраслей, в которых доминируют несколько крупных компаний.

*"Если такие рынки не будут регулироваться, это приведет к социально нежелательным результатам — необоснованному росту цен на продукцию крупных компаний или сохранению на рынке нерентабельных компаний, которые выживают, блокируя выход на рынок продукции конкурентов. Жан Тироль создал общую основу для разработки мер регулирования различных отраслей экономики — от телекоммуникационной до банковской. Опираясь на его разработки, правительства могут поощрять крупные компании, помогая им стать более эффективными, и в то же время предотвратить вред, который те могли бы причинить конкурентам или потребителям",* — говорится в сообщении Нобелевского комитета.

Жан Тироль также известен своими работами в области макроэкономического анализа — он создал математические модели таких понятий, как репутация, качество и честная конкуренция.

61-летний Жан Тироль занимается изучением отраслевых рынков, теорией игр, теорией стимулов в поставках и регулировании. Он опубликовал более ста научных статей по экономике и шесть книг.

Он является лауреатом премий различных университетов и экономических организаций, в частности он получил золотую медаль Национального центра научных исследований Франции в 2007 году и награжден премией Европейской экономической ассоциации в 1993 году.

**Антон ДРАБОВИЧ.**

СЛЫШАЛИ?

# *Более 800 миллионов людей в мире страдают от голода*

И хотя общее число голодающих в развивающихся странах с 1990 года снизилось более чем на треть, в 16 государствах ситуация остается "очень серьезной" или "чрезвычайно серьезной", говорится в публикации немецкой организации "Помощь голодающим в мире". Согласно документу, большинство из стран с населением, страдающим от голода, находится в Африке. Кроме того, два миллиарда людей в мире испытывают недостаток питательных микроэлементов — так называемый "скрытый голод".

Конфликты, подобные тем, которые в настоящее время происходят в Сирии, Ираке и Южном Судане, ведут к вспышкам голода в этих странах. В частности, в Ираке с 1990 года число людей, страдающих от недоедания, выросло более чем в два раза.

РЭГІСТРАТУРА

# Пяць нігерыйцаў у Беларусі шпіталізавалі

Эбола дабралася і да Еўропы. Днямі прыйшло паведамленне, што першы магчымы выпадак з'яўлення віруса Эбола быў зафіксаваны ў суседняй Польшчы ў горадзе Лодзь. Мужчына, які прыбыў з Германіі, быў шпіталізаваны з сімптомамі ліхаманкі. У гэты ж дзень з самой Германіі прыйшло яшчэ больш пужлівае паведамленне: у Лейпцыгу ад ліхаманкі памёр высокапастаўлены супрацоўнік ААН. У нямецкую клініку ён быў дастаўлены некалькі дзён таму з Ліберыі, і ўвесь гэты час медыкі ацэньвалі яго стан як цяжкі.

У Беларусі робіцца ўсё для таго, каб не дапусціць пранікнення віруса Эбола на тэрыторыю краіны, паведаміў журналістам галоўны дзяржаўны санітарны ўрач **Ігар Гаеўскі**. У першую чаргу ўсе сілы сканцэнтраваны на мяжы і ў аэрапорце.

Спецыяліст адзначыў, што дактары-інфекцыяністы ёсць па ўсёй Беларусі, і практычна ў любым раённым цэнтры ёсць інфекцыйная бальніца, аддзяленне альбо боксы для такіх хворых. На адлегласць 25—30 кіламетраў заразнага хворага можа падвезці спецыяльна абсталяваная брыгада "хуткай дапамогі". Тэхнічная аснашчанасць, паводле слоў Гаеўскага, дастатковая, але прапрацоўваецца пытанне аб набыцці больш сучаснага абсталявання.

Паводле слоў Гаеўскага, самая вялікая небяспека — гэта студэнты з Нігерыі, якія навучаюцца ў ВНУ Беларусі.

Пасля прыбыцця ў нашу краіну усё яны 21 дзень (інкубацыйны перыяд захворвання) назіраюцца спецыялістамі. Акрамя таго, у групе рызыкі — тыя, хто прыбыў з іншых краін Афрыкі.

За некалькі месяцаў толькі 5 чалавек у Нацыянальным аэрапорце і адзін у Віцебску — студэнты, якія прыбылі з Нігерыі, — "канфіскоўваліся" каранціннай службай, бо ў іх была зафіксавана павышаная тэмпература цела. Пасля гэтага людзей адразу ізалявалі і шпіталізавалі. Аналізы на вірус Эбола былі адмоўныя.

НА ЗАМЕТКУ

# Что важно знать про вирус Эбола

*Лихорадка Эбола — редкое, но крайне опасное заболевание с уровнем смертности от 25% до 90%. Жертвами последней эпидемии, начавшейся в марте 2014 года, стали уже более 3400 человек. Всемирная организация здравоохранения признала эту эпидемию угрозой международного значения.*

### Передача заболевания

Лихорадкой Эбола можно заразиться при тесном контакте (при нарушении кожного покрова или через слизистую оболочку), вирус переносится с кровью, выделениями или другими жидкостями организма инфицированных людей.

### Инкубационный период

Продолжается от 2 до 21 дня. Заболевание начинается с сильной головной боли, болей в горле, в мышцах и общей слабости.

### Симптомы и развитие болезни

Затем следуют рвота, диарея, сыпь, нарушение функций почек и печени и в некоторых случаях как внутренние, так и внешние кровотечения. Лабораторные тесты выявляют низкие уровни белых кровяных телец и тромбоцитов наряду с повышенным содержанием ферментов печени.

### Профилактика

В отсутствие эффективного лечения и вакцин для людей важно повышение информированности в отношении факторов риска и использование индивидуальных мер защиты. С животными необходимо обращаться в перчатках и другой защитной одежде. Мясо перед употреблением в пищу необходимо подвергать тщательной тепловой обработке.

Необходимо избегать тесного физического контакта с людьми, инфицированными вирусом Эбола. При уходе за больными необходимо надевать перчатки и средства индивидуальной защиты. После посещения больных родственников в больницах необходимо тщательно мыть руки.

### Лечение

Надежных методов лечения или эффективной вакцины от лихорадки Эбола в настоящее время не существует. Несмотря на несколько случаев излечения, инъекция экспериментального препарата Zmapp (разработанного в США) не помогла спасти испанского пастора, ставшего первым европейцем, погибшим от этого заболевания.

В настоящее время проводятся клинические испытания нескольких вакцин, хотя ни одна из них пока не прошла процесс сертификации.

### Страны, затронутые эпидемией

Вспышка, которая продолжается с марта 2014 года, затронула в основном Гвинею, Либерию, Сьерра-Леоне и в меньшей степени Сенегал и Нигерию.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Звычайны дзень у Чарнігаве

***Гэты горад — адзін з тых, чыё мінулае нібыта выглядае больш цікавым за сучаснасць. Адзін з цэнтраў Кіеўскай Русі (упершыню згадваецца ў 907 годзе), сапернік старажытнага Полацка (чарнігаўскія дружыны князя Святаслава, унука Рагнеды, удзельнічалі ў крывавай бітве на Нямізе), цяпер гэты 291-тысячны горад задаволіўся статусам абласнога цэнтра. Але яго паўсядзённае жыццё, магчыма, куды больш красамоўна сведчыць пра сітуацыю ва Украіне, чым рэаліі сталічнага Кіева або заўсёды патрыятычнага Львова.***



## Туды — з грашыма, назад — з прадуктамі

Трапіць у Чарнігаў проста. Набыць квіток на аўтобус з Гомеля коштам 51 тысячу (калі купляць на мінскім вакзале, будзе даражэй на 10 тысяч) і пераадолець 120 км за чатыры гадзіны (з улікам беларускай і ўкраінскай мяжы). Дарэчы, на апошняй адчуваеш перавагу свайго грамадзянства. Дэкларацыю на тое, каб трапіць ва Украіну, цяпер запаўняюць толькі асобы з расійскім пашпартам. Праўда, на ўвесь аўтобус такі чалавек быў усяго адзін. Але на яго дагляд пайшла большасць часу, адведзенага на памежны кантроль.

Туды пасажыры беларускага аўтобуса вязуць не тавары на продаж, а грошы. Мясцовыя жыхары тлумачаць, што цяпер эканоміка іх краіны знаходзіцца прыкладна ў той жа сітуацыі, што і беларуская ў 2011 годзе. Афіцыйны курс мясцовай валюты да долара складае 11—12 грыўняў, а вось на "чорным" рынку курс дасягае 15. Да таго ж замежную валюту можна набыць, толькі маючы ўкраінскі пашпарт. Таму беларусам у Чарнігаве даводзіцца шукаць іншых беларусаў ці валютчыкаў. І ў выніку вярнуцца дадому з беларускімі грашыма, бо ў нас курсы куплі і продажу грыўняў адрозніваюцца паміж сабой ледзь не ў два-чатыры разы (адпаведна за 200 рублёў можна здаць у банк, за 500 ці нават 800 — купіць).

З Чарнігава нашы землякі вязуць пераважна прадукты, якія ўсё ж танней за беларускія. Валізкі беларускіх пенсіянерак, з якімі давялося ехаць разам, забітыя ўпакоўкамі з... аўсянкай. Калі ў беларускім "Еўраопце" 1 кг аўсяных камячкоў "Экстра" можна набыць за 5,6 тысячы, дык у Чарнігаве — амаль у два разы танней. Прычым калі кіроўца просіць бабуль выйсці з аўтобуса падчас праходжання мытні, то чуе ў адказ: "Не хвалюйцеся, нас тут усе ведаюць!" І сапраўды: украінскі мытнік толькі ўсміхаецца ім і больш не звяртае ніякай увагі.

## «Як добра ў вас у Беларусі!»

Украіна — рэгіён, дзе беларускі ўзровень жыцця многія ацэньваюць вышэй, чым ва ўласнай краіне. Дагэтуль рэпліку "Як добра ў вас у Беларусі!" мне даводзілася чуць толькі два разы: у размовах з рускамоўнымі жыхарамі краін Балтыі, а таксама ў Расіі (ад людзей сталага ўзросту, якія адчуваюць настальгію па савецкіх часах). У Чарнігаве лёгкую зайздрасць да нашага жыцця выказала не пенсіянерка, а маладая і стыльна апранутая Святлана, з якой разгаварыўся ў маршрутцы. На развітанне я спытаў, ці была яна ў Беларусі. "На выхадных ездзілі з дачкой у Гомель, гулялі па парку", — адказвае яна, маючы на ўвазе палацава-паркавы ансамбль Румянцавых—Паскевічаў.

"Ох, не жылі вы ў Беларусі..." — разважаў я, выходзячы з маршруткі, за якую заплаціў 2,5 грыўні (каля 2 тысяч беларускіх рублёў). У Мінску тая ж паслуга каштуе ў пяць разоў болей!

Логіку Святланы я зразумеў пазней, калі завітаў у чарнігаўскі Гарадскі парк культуры і адпачынку. Там некаторыя беларускія рэаліі сапраўды ўспрымаюцца зусім па-іншаму. Калі замежнікі хваляць чысціню мінскіх вуліц, часам узнікае раздражненне: маўляў, няўжо яны не заўважаюць, што для падтрымкі такой чысціні на вуліцах існуе цэлая армія дворнікаў? Няўжо за нешта іншае нас нельга пахваліць? Да чысціні пакрысе пачынаеш прызвычайвацца. А потым у тым жа чарнігаўскім парку адчуваеш сапраўдны шок. Так, сцежкі, засыпаныя лісцем, цалкам адпавядаюць рамантычнаму восеньскаму настрою. Але зусім не натхняе агульная занядбанасць (напрыклад, ля ўвахода ў парк наведвальнікаў сустракае фантан, адкуль не прыбіраюць смецце; большасць сцежак з выбоінамі, апошні раз былі заасфальтаваныя Бог ведае калі).

Асабліва ў парку бянтэжаць атракцыёны. У параўнанні з імі мінскія аналагі выглядаюць лідарамі тэхнічнага прагрэсу. Калі падыходзіў да кола агляду (каб паглядзець на Чарнігаў з вышыні птушынага палёту), здзівіўся: чаму на ім зусім няма дзяцей? Прычына стала зразумелай вельмі хутка: апошні рамонт рабіўся ці не два дзесяцігоддзі таму. Не дзіўна, што карыстацца атракцыёнам мала хто рызыкуе. Ды і я, сеўшы ў кабінку, ужо праз дзесяць секунд пачаў марыць аб тым, каб хутчэй вярнуцца на зямлю. Зразумела, чаму гомельскі парк здаецца некаму такім прывабным.



## Турызм або асабістае жыццё?

Іншая крайнасць назіраецца ў гістарычным цэнтры горада — на тэрыторыі Дзяцінца (або вала). Апошні размешчаны на тэрыторыі Цэнтральнага парку культуры і адпачынку імя Міхаіла Кацюбінскага, вядомага ўкраінскага пісьменніка. Помнікі, што знаходзяцца ў парку, уваходзяць у Нацыянальны архітэктурна-гістарычны запаведнік "Чарнігаў старажытны". Сумная іронія ў тым, што агульная атмасфера сапраўды нагадвае запаведнік: у адрозненне ад таго ж гарадскога парку тут пануе чысціня, але адначасова не назіраецца ніякага турыстычнага жыцця.

Між тым Чарнігаў ведаў свае залатыя часы, калі з'яўляўся цэнтрам самастойнага княства. У горадзе засталося ажно пяць помнікаў старажытнага дойлідства (ва ўсёй Украіне іх 15). Прычым сярод іх самы стары помнік — Спаса-Прэабражэнскі сабор (1033), дзе, дарэчы, пахаваны князь Ігар, герой "Слова пра паход Ігаравы" і оперы Барадзіна. Акрамя таго, Чарнігаў паўтара стагоддзя ўваходзіў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Пазней 37 гадоў знаходзіўся ў Рэчы Паспалітай (прычым атрымаў ад Жыгімонта Вазы Магдэбургскае права). Але стаўленне да такой багатай спадчыны ў мясцовых жыхароў досыць абыякавае. "Калі ў цэнтры Львова запытацца, калі быў заснаваны горад, дапамогуць нават таксісты, — абураецца мясцовая журналістка Марыя. — На такое ж пытанне ў Чарнігаве адказваюць адзінкі. Між тым Львоў маладзейшы за Чарнігаў на тры з паловай стагоддзі".

Удзень па алеях шпацыруюць толькі адзінокія мясцовыя жыхары. Сапраўднае жыццё Дзяцінца пачынаецца ўвечары. Яго апаноўвае цемра, якую марна спрабуюць парушыць рэдкія цьмяныя ліхтары. Такой сітуацыяй карыстаюцца закаханыя парачкі, якія хаваюцца літаральна пад кожным дрэвам. Якія ўжо тут турыстычныя вандроўкі і кубачкі кавы ў шматлікіх кавярнях? Якое начное гарадское жыццё? Галоўнае для турыста — не перашкодзіць асабістаму шчасцю чарнігаўскай моладзі!

Прычын такой сітуацыі некалькі. Гістарычны цэнтр Чарнігава знаходзіцца фактычна на ўскраіне горада. За ракой Дзясной, якая з аднаго боку амывае Дзяцінец, горада ўжо няма. Мясцовыя жыхары кажуць, што ў некаторыя раёны маршруткі перастаюць хадзіць пасля 10 гадзін вечара. Калі няма ўласнай машыны, вяртацца на ўскраіны трэба загадзя. Таму вечарам горад звычайна пусты, а пасядзець у цэнтры можна хіба ў некалькіх кавярнях на праспекце Міра. Акрамя таго, у горадзе адсутнічае якая-небудзь сур'ёзная турыстычная інфраструктура. Адзінае выключэнне — стэнды з фотаздымкамі — як выглядаў Чарнігаў 100 гадоў таму. Праўда, мясцовыя жыхары даўно пагляздзелі, што хацелі.

## Палітычная агітацыя — у дзіцячым парку

Пра будучыя парламенцкія выбары нагадваюць перадвыбарныя плакаты, якімі літаральна заклеены цэнтр, шматлікія бігборды, а таксама агітацыйныя намёты, расстаўленыя па горадзе. Часцей за ўсё сустракаецца рэклама "Блока Пятра Парашэнкі", а таксама партыі "Бацькаўшчына" Юліі Цімашэнка. Праўда, здзівіла адно палітычнае "ноу-хау". Праз радыёкропкі гарадскога парку ўкраінцаў пераконваюць прагаласаваць за тую або іншую партыю. Рубрыка так і называецца: "Палітычная рэклама". Калі я зайшоў у парк, мінакоў агітавалі за партыю дзеючага прэзідэнта.

Цяжка сказаць, ці мае гэта эфект. Пры мне чарнігаўцы не звярталі на рэкламу асаблівай увагі: прынамсі, ніхто не спыняўся, каб паслухаць рэкламу, і не падыходзіў да намётаў. Хутчэй за ўсё, украінцы проста стаміліся ад палітыкі. Асабліва, калі ў Данбасе ідзе вайна. Дарэчы, сустрэў у горадзе ўсяго тры адгалоскі ўсходніх падзей.

Першы — афіша пра выступленне абласной філармоніі. Грошы, якія атрымаюць салісты, яны плануюць ахвяраваць на правядзенне антытэрарыстычнай аперацыі. Другі — ваенна-майданаўская песня "Воины свету" з рэпертуару беларускага гурта "Ляпіс Трубяцкі", што гучала на ўвесь начны парк імя Кацюбінскага ў выкананні кампаніі маладзёнаў.

А трэці, ускосны адгалосак усходніх падзей, — стужкі колераў украінскага сцяга сустракаюцца паўсюль. Іх столькі, колькі патрэбна, каб натуральна засведчыць украінскі патрыятызм. Магчыма, менавіта ён дазволіць жыхарам Чарнігава, стомленым і ад атмасферы вайны на ўсходзе краіны, і ад хаосу папярэдніх гадоў прэзідэнцтва Януковіча вытрымаць і дачакацца лепшага жыцця.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

*Мінск—Чарнігаў.*



ЭВРИКА!

# Бионические глаза

*Корреспондент BBC Future побеседовала с женщиной, которой вернули зрение при помощи сверхсовременного оптического протеза.*

Фрэн Фултон 66 лет, последние десять лет она была полностью слепа. Но пару месяцев назад ее жизнь изменилась.

Фултон страдает от пигментного ретинита: при этом заболевании светочувствительные клетки сетчатки постепенно отмирают. Она теряла зрение постепенно, в течение нескольких лет, а последние 10 лет совсем ничего не видела. В конце июля ей имплантировали систему под названием "Аргус-2". Оснащенные камерами очки подключены к электродам, вживленным в ее глазные яблоки, и через них в мозг поступает визуальная информация. С помощью этого устройства она вновь может видеть. Какие же ощущения она при этом испытывает?

*"Когда они меня "включили", у меня захватило дух,* — говорит Фултон. — *Я была ошеломлена и потрясена, мое сердце забилось так быстро, что я даже положила руку на грудь — боялась, что оно выскочит!"*

Видеокамеры постоянно совершенствуются, наши знания о зрении углубляются — а вместе с этим оттачиваются технологии восстановления зрения у слепых. Устройства, подобные "Аргусу-2", работают вместо незрячих глаз. Они не могут сравниться со здоровыми глазами и их пока мало (в США эти системы носят всего шесть человек), но специалисты надеются, что со временем такие устройства смогут помочь все большему количеству незрячих людей.

ПАДЗЕЯ

# Калі бусел прылятае да гнязда

*Не чакала, што да фільма "Белыя Росы. Вяртанне" будзе такая ўвага, такі ажыятаж. Разумела, што яго будуць ларніраваць крытыкі: так бы мовіць, разглядаць з перабольшанай увагай, нават скепсісам. Для гэтага ёсць аб'ектыўныя прычыны: Аляксей Дудараў, светлай памяці Ігар Дабралюбаў, іх першыя "Белыя Росы"... А цяпер вось "другая спроба" (хоць Аляксей Ануфрыевіч і папярэджвае, што прамой сувязі з першай кінастужкай няма). Але каб масавы глядач так прагна "накінуўся"... Аказваецца, галодны наш глядач на сваё, адчувае патрэбнасць у нацыянальным кіно.*

*У кінатэатры "Кастрычнік" яблыку не было дзе ўпасці. Дзясяткі журналістаў засталіся стаяць у праходах. Крэслы — а іх, паводле афіцыйных дадзеных, у "Кастрычніку" 1340 — усе былі занятыя. Ну, добра, 40—50, няхай сабе 100 — запрошаныя госці, а астатнія? Зразумела, што купілі квіткі самі. Прычым ужо за тры дні да прэм'еры заставаліся толькі бакавыя месцы, а ў дзень "ікс", у панядзелак 13 кастрычніка, людзі пыталіся пра лішні білецік ужо каля метро.*

*Якія першыя ўражанні? Фільм атрымаўся. Меладраматычная гісторыя пра тое, як павінна быць паміж людзьмі на зямлі. Як будаваць жыццё, каб над тваім домам сяліўся бусел. Рэжысёр **Аляксандра Бутор** і аператар **Алег Гірэль** на аснове кінааповесці **Аляксея Дударава** стварылі стужку, поўную любові, святла, надзеі, веры. У Мінску з учарашняга дня фільм у пракаце. У Гомелі, Магілёве, Гродне, Вільнюсе і Маскве чакаюцца яго прэм'ерныя паказы. Як кажуць, у добры шлях!*



Аляксандра Бутор, Юозас Будрайціс і Павел Харланчук.

*Александра БУТОР:*

## «Это я с виду такая малышка. А на площадке — капитан»

**— У меня "детский" вопрос: сколько дней вы с оператором ждали, пока аист приземлится в гнездо?**

— О, об этом меня еще никто не спрашивал. Нам повезло, аиста мы сняли за 5 минут. Нашли его гнездо в соседней деревне, не на нашем хуторе. Наши художники ежедневно ездили туда смотреть, дома ли птица, то есть несколько дней изучали ее "расписание". В общем, караулили. И подкараулили в самый последний день! Иначе не знаю, как бы вывернулись. Рисовали бы, что ли?

**— Очень удачный образ...**

— В фильме он вырастает в объемную метафору. Это не просто удачный кадр: красивая птичка летает. Это образ дома, Родины, семейного гнезда.

**— А где вы нашли натуру — этот очень красивый хутор? В каком районе?**

— В Гродненской области на Сорочанских озерах. Настоящий хутор из трех домов. Мы его долго искали, потому что все, что в радиусе ста километров от Минска, так или иначе покрыто коттеджной застройкой. А требовался чистый уголок. Нашли за 250 километров от столицы. Дом настоящий, не декорации, в нем живет молодая семья, у них трое детей. Существуют в полном единении с природой: купаются по утрам в озере, ловят рыбу, продают ее. Вся жизнь связана с лесом и водой.



Николай Караченцов в фильме "Белые Росы".

**— Александра, вы научились прислушиваться к чужому мнению? А если проще, вам никто не мешал "добрыми советами" во время съемок?**

— Дебют дебютом, но я занимаюсь этой профессией уже много лет. В 1998 году я первый раз поступила в Академию искусств — на режиссуру телевидения. Потом много лет отработала на ОНТ и опять поступила в Академию — на режиссуру кино, к Александру Ефремову. Это к тому, что я не новичок на площадке. Нет, ее я знаю и люблю! Мне там очень комфортно. Мне интересно мнение людей, но не скажу, что оно сильно на меня влияет. Потому что я абсолютно точно знаю, что я делаю, за что берусь и что хочу получить. И вообще, знаю, куда иду. Мне кажется, мне доверяют артисты. Даже Будрайтис, даже Манаев. Это я с виду такая малышка. А вообще, на площадке — капитан.

**— Наш любимый Виктор Манаев был в кадре в ударе: в образе Петра Демьяновича он показал, кажется, совершенно все, что умеет. Может быть, даже излишне.**

— Может быть. Виктора Сергеевича всегда много. Мне кажется, вообще роль совпала с ним в жизни. Он любит юмор. И при этом всегда немного грустный.

**— А артистами Сергеем Жбанковым и Павлом Харланчуком, сыгравшими главных героев, вы довольны?**

— Ну что я?.. Вот зритель... Мальчишек после премьеры публика взяла в такое плотное кольцо, они еле выбрались. Все хотели с ними сфотографироваться. Жены к ним подойти долго не могли.

**— Вот, оказывается, как люди соскучились по своим, белорусским, не голливудским звездам... Знаете, а Юозас Будрайтис все-таки слишком аристократичен для белорусского мужика-хуторянина.**

— А мне его балтийское спокойствие как раз было на руку. Чтобы как столп, чтобы как символ мудрости и силы.

**— Что ж, в конце концов, от гродненского хутора до Литвы рукой подать... Может быть, там, на нашей границе, и такие типажи имеются.**

— Так Будрайтис через границу к нам пешком на съемки ходил! А когда ездил летом на пробы на следующую нашу картину "Сладкое прощание Веры", то машинисты поезда его узнавали и даже дали однажды "порулить". Он сам вел состав! А потом шутил, что приехал на собственном поезде.

**— Что значит слава... Скажите, пожалуйста, во сколько обошелся фильм казне?**

— В принципе, бюджет стандартного полного метра — около миллиона долларов. Наш фильм стоил 800 тысяч. Директор "Беларусьфильма" Олег Игоревич Сильванович очень поддерживал меня на этом проекте, даже старался прикрыть собою: предупредил, что вначале будет много придирок, грязи (назовем вещи своими именами). Поэтому он вначале прятал, оберегал меня от журналистов, не пускал их на площадку. И когда сдавали фильм худсовету, сказал с улыбкой: "Слушай только меня!" В общем, у нас с директором сложились хорошие отношения свободных творческих людей.

**— Результат неплохой, и вас, и директора можно поздравить. Публика довольна. Я увидела на премьере, что зритель очень соскучился по белорусскому кино и белорусским героям!**

— Я поняла это еще на фестивале "Зов Полесья" на Гомельщине. Мы летом привезли туда картину (фильм был готов уже весной, ждал минской премьеры на полке) и показали ее в маленьком зальчике на сто человек. Его так тепло принимали, так душой реагировали! Как, оказывается, нужно свое, отечественное кино, в котором у героев наши имена, и чтобы говорили они иногда на "трасянцы".

**— Как очень сочный и очень узнаваемый председатель сельсовета...**

— Этого персонажа придумала я, его у Дударева не было. Так же, как и персонажа Андрея Мерзликина — Ивана. Мы с Алексеем Ануфриевичем договорились, что я буду править сценарий, добавлять туда, что мне нужно. Он очень терпеливо к этому отнесся. Стойко держался. В результате мы, можно сказать, просто полюбили друг друга. Дударев — потрясающий человек.

**— А как вы, Александра, будете защищаться от критики? Она ведь неизбежна...**

— Пускай... Критики, надеюсь, стрелять в меня не будут. А говорить, писать — пускай. Я видела главное — людей в зале, их зрительские слезы... Мне этого достаточно, чтобы понять, что я на правильном пути. У меня вся комната в цветах после премьеры — это же не заказные букеты, люди несли их от сердца.

**— Какой самый важный творческий опыт, по-вашему, был у вас до "Белых Рос-2"?**

— Я бы назвала это опытом съемочной площадки: у меня было два больших проекта на ОНТ, где я работала с огромной группой артистов и массовки в 200 человек, — "Павлинка NEW" и "Батлейка". После них мне уже не страшно ничего.

**— А что нового о своем характере вы узнали на съемках "Белых Рос"?**

— Наверное, что я могу оказывать сильное влияние на людей. Услышала столько теплых слов от артистов!.. Думала, что после съемок разойдутся и забудут, но мы все вместе до сих пор, все стали друзьями: и Андрей Мерзликин, и Юозас Будрайтис, и наши мальчики Сергей Жбанков и Павел Харланчук. Уже сто раз были друг у друга в гостях. Фильм про семью сделал нас всех одной семьей. Артисты стали мне как родные. Любой их них это подтвердит.

## Вярнуцца да «Белых Рос» Аляксея Дударава падштурхнуў дваровы шчанюк

**— Аляксей Ануфрыевіч, як адзначылі прэм'еру фільма?**

— Адзначылі з сябрамі і блізкімі. Гудзяжу не было. "Жаўцізны" публіцы не падкіну.

**— А вось спытаю ваша меркаванне аб з'яўленні акцёра Мікалая Карачанцава ў зале. Гэта хіба не аддае жоўтым?**

— Не... Я падышоў, паціснуў яму руку. Калі я даведаўся, што рэжысёр Аляксандра Бутор зняла Карачанцава ў фільме, прыйшоў на прагляд, нібы з жабай на сэрцы. Але паглядзеў... Ну што ж... Гэта шчыра, гэта не гульня ў вялікадушнасць з артыстам, які трапіў у бяду.

**— А ў цэлым якія ўражанні ад фільма па гарачых слядах?**

— Я глядач сапсаваны. Калі літаратар стварае п'есу, сцэнарый, ён ужо здымае сваё ўнутранае кіно. І перазняць яго не зможа ніхто, нават самы вялікі талент, усё роўна нешта парушыцца. Рэжысёр Аляксандра Бутор расказала сваю гісторыю. Галоўнае — з сэрцам, з душой, з добрым поглядам на людзей, на перспектыву. Яшчэ раз скажу: новы фільм ні ў якім выпадку нельга лічыць працягам "Белых Рос". Што працягваць? Мы жывём нават не ў іншай краіне, мы жывём на іншай планеце!

**— Можа быць, вы паспрачаецеся, але ў фільме "Белыя Росы. Вяртанне" я адчула сувязь з вашай п'есай "Вечар".**

— Магу сказаць наступнае: толькі цяпер я зразумеў, што такое "Вечар", які я напісаў, калі мне было 30 гадоў. Справа не ў тым, добрыя ці дрэнныя дзеці, а ў тым, што рана ці позна любы чалавек застаецца адзін. І ад гэтага яго не ўратуе ніхто і ніколі. Гэта і трагедыя, і крыж...



Са старых "Белых Рос" у новым фільме сыгралі толькі два акцёры: Ірына Ягорава-Каўрыга і Мікалай Карачанцаў.

**— Мяне вельмі кранула метафара з буслом, які вяртаецца ў гняздо. Хоць, прызнаем, гэта ўжо штамп. Наш нацыянальны штамп. Тым не менш ад гэтага ён не перастае кранаць сэрца. Чаму?**

— А калі б у рэжысёра Аляксандры Бутор не было б бусла — чысціні, веры — унутры, гэты эпізод не гучаў бы так гарманічна і чыста ў карціне, мы бы моршчыліся, як ад скрыгату: навошта?.. А так — бусел сапраўды прылятае!

**— І верыш, і плачаш...**

— Хоць людзі жывуць не па-боску... Пакуль што. Але жаданне веры, жаданне надзеі, любові — яны ніколі не пройдуць, запатрабаванасць будзе ва ўсіх. Адзін святар на пропаведзі сказаў: у храме на людзей паглядзіш — ну як святыя. Выйшлі з храма — усё з пачатку.

**— Фільм пабудаваў дом-храм... У ім героі лепш, чым яны ў жыцці. Нават адмоўны герой Бодзя, чый вобраз таленавіта стварыў Павел Харланчук, выклікае сімпатыю. Харланчуку, раптам заўважыла, наогул цікава глядзець у твар. Наша новая зорка?**

— Таму што ў акцёра ёсць другі, трэці, чацвёрты план. Справа ў тым, што гэты адмоўны персанаж у канцы што робіць? Ён плача. А калі чалавек заплакаў... Ён не вачыма плача, ён плача душой. Павел Харланчук мне вельмі падабаецца. Усюды падабаецца, дзе яго ні бачыў. Сапраўды, унутры ў яго багата.

**— А каму, Аляксей Ануфрыевіч, першаму ўсё ж такі прыйшла ідэя вярнуцца да тэмы "Белых Рос"?**

— На 20-годдзі фільма "Белыя Росы" адзін рэжысёр паказаў дакументальны фільм, дзе ён зняў вуліцу Белыя Росы, якая ёсць у Гродне, пагаварыў там з сімтым. І зняў нейкага шчанюка. А потым пытаецца: "Пазнаў? Гэта нашчадак Валета!" (*Валет — пёс сям'і Ходасаў у "Белых Росах". —* **А.М.**). Я гавару: "З глузду з'ехаў!" А ён: "Дакажы, што гэты пёс — не нашчадак! А, па-другое, якая табе розніца? А людзям прыемна". Ну і гэта было як штуршок. Час прайшоў, жыццё прайшло, захацелася зазірнуць: а што здарылася з сям'ёй Ходасаў?

**— Усё ў вашых руках: што прыдумалі, то і здарылася.**

— Хм, героі, як толькі яны пачынаюць жыць у табе, жывуць па сваіх законах, па сваіх правілах. Далей яны табе дыктуюць, а не ты ім. Бывае, што і да слёз.

**— Мне здаецца, "Белыя Росы. Вяртанне" таксама стане народнай стужкай, як і першы фільм.**

— Дай Бог, але вырашаць будзем не мы, аўтары. І не чыноўнікі, журналісты, рэкламісты, крытыкі. Вырашаць будзе толькі глядач.

**— Крытыкі ўжо назвалі фільм казкай для дарослых.**

— "Не будете как дети, не войдете в Царствие Небесное".

**— У вас ёсць прычыны крыўдзіцца на лёс?**

— За ўсё трэба дзякаваць Богу. А калі дзякуеш, якія ж крыўды?

**— Да вас падыходзіў на прэм'еры з віншаваннямі хто-небудзь з высокіх гасцей?**

— Ну, міністр культуры са сцэны ўсё мне сказаў. А астатніх я і не бачыў. А хто быў?

**— Надзея Ермакова, Уладзімір Макей...**

— Я арыентуюся на гледача. А ён кіно прыняў, я гэта адчуў. Крытыкі? Я зараз проста не хачу цытаваць, што гаварылі пра "Белыя Росы" Ігара Дабралюбава 30 гадоў таму.

**— А што? Не, цяпер ужо ўспамінайце! Іменавалі "клюквой"?**

— Кічам! Маўляў, лепш глядзець правалы Феліні, чым наш беларускі кіч. Кіч не кіч, а саграваe. Цяплом і верай. Людзі кіно рабілі душой.

**— Хачу пацікавіцца як даўні сябар: ці хопіць ганарара на машыну? Ці толькі на машынку?**

— Так. З першых "Белых Рос" я купіў у 1984 годзе аўтамабіль "Волга". І зараз таксама хопіць на машыну.

**Алена МАЛОЧКА.**

ДА ВЕДАМА!

### *Нацыянальны банк будзе адчынены для ўсіх*

У суботу 18 кастрычніка ў рамках агульнадзяржаўнай кампаніі па павышэнні фінансавай адукаванасці насельніцтва Нацыянальны банк краіны праводзіць Дзень адчыненых дзвярэй (уваход у будынак цэнтральнага апарата Нацбанка ў Мінску па праспекце Незалежнасці, 20).

Прэс-сакратар Нацбанка **Аляксандр Цімашэнка** паабяцаў, што ў гэты дзень любы жадаючы зможа даведацца, як "нараджаюцца", "жывуць" і "паміраюць" грошы, як адрозніць падробленыя грошы ад сапраўдных, што могуць банкаўскія плацежныя карткі, як працуе "банк на канапе". Можна будзе ўбачыць кабінет старшыні праўлення Нацбанка і залу пасяджэнняў, даведацца, што знаходзіцца ў кабіне інкасатарскага аўтамабіля, прымераць бронекамізэльку.

ЗНАЙ НАШИХ!

### *Возраст не помеха*

*Ирина Мойсейчик завоевала корону третьей вице-мисс на Всемирном конкурсе красоты Princess Of The Globe, проходившем в турецком городе Бодрум в конце сентября. По правилам, теперь красавица имеет право участвовать в конкурсе "Мисс мира — 2014", однако вопрос о ее участии в популярном конкурсе решит отборочная комиссия.*



Корона третьей вице-мисс стала неожиданностью для красавицы, ведь Ирина уже около десяти лет не участвует в фотосъемках и конкурсах красоты.

— Модельный бизнес оставила в 18 лет. До того были мелкие фотосъемки, которые приносили мне больше удовольствия, чем денег. А в конкурсах красоты участвовала совсем юной, — призналась Ирина журналистам. Это был конкурс "Мисс Беларусь".

— Я была тогда совсем зеленая, и адаптироваться к строгим взглядам жюри было сложно. Репетиции проходили с утра до ночи под жестким прицелом камер. Вдобавок в то время я была стеснительной. Зато сейчас отлично чувствую себя на сцене, — улыбается девушка.

Участвовать во Всемирном конкурсе Princess Of The Globe Ирину приглашали еще два года назад. Но все время препятствовали обстоятельства. В этот раз звонок-приглашение совпал с отпуском, поэтому Ирина согласилась не раздумывая.

Корона одной из победительниц дает право представлять свою страну на Всемирном конкурсе красоты "Мисс мира — 2014", который будет проходить в Малайзии. Однако по правилам участницы не должны быть старше 24 лет. Ирине сейчас 27. Но знаменитый конкурс часто отступает от жестких регламентов: были случаи, когда красавицы были старше заявленного возраста.

Несмотря на победу в Турции, Ирина не хочет связывать свою жизнь с модельным бизнесом. Сейчас она работает начальником отдела импорта в одной столичной инжиниринговой компании и строит карьеру. Кстати, у девушки два высших образования. Секретом красоты считает любовь к спорту, который для нее лучшее лекарство. В расписании красавицы занятия танцами (перепробовала фламенко, боди-балет, женскую пластику) и конный спорт. Много читает: последняя прочитанная книга — "Красное и черное" Стендаля. На вопрос, свободно ли сердце, собеседница загадочно ответила:

— Полусвободно. Сердце полностью занято, когда девушка замужем. А я пока нахожусь в поиске, ведь решение о замужестве очень серьезное, избранника надо выбирать раз на всю жизнь.

КАДРЫ

### *Старшыня Следчага камітэта Беларусі зоймецца яшчэ і валейболам*

*На гэтым тыдні старшыня Следчага камітэта Валянцін Шаеў абраны старшынёй Беларускай федэрацыі валейбола.*



На справаздачна-выбарнай канферэнцыі федэрацыі за кандыдатуру **Шаева** дэлегаты выказаліся аднагалосна, паведамляе прэс-служба БФВ.

Раней гэтай грамадскай арганізацыяй 15 гадоў кіравалі былы старшыня Мінаблвыканкама **Барыс Батура**. На канферэнцыі было вырашана абраць яго ганаровым старшынёй.

Як бачым, зараз у многіх федэрацыях ідзе працэс абнаўлення кіраўніцтва. Не так даўно лёгкаатлетычную "гаспадарку" краіны ўзначаліў у мінулым вядомы спартсмен, а цяпер дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу **Вадзім Дзевятоўскі.** Адбылася змена ў Беларускай федэрацыі валейбола, а 22 кастрычніка чакаецца, што Федэрацыю хакея ўзначаліць экс-старшыня Дзяржпагранкамітэта **Ігар Рачкоўскі.**

**Алесь СІВЫ.**

КУЛУАРЫ

## З пачынам!

Старшыня Савета міністраў **Міхаіл Мясніковіч** прадэманстраваў веданне беларускай мовы. Адбылося гэта ў сераду падчас удзелу старшыні ўрада ў калегіі Міністэрства культуры.

Прамаўляў Мясніковіч упэўнена, не спатыкаючыся і нават захоўваючы асаблівасці спецыфічна беларускага вымаўлення гукаў. Атрымалася, на думку многіх, нават лепш, чым па-руску. Дзіўна, чаму раней ён так баяўся выступаць па-беларуску — нарадзіўся ж у Нясвіжскім раёне, дзе менавіта на матчынай мове і гаварылі, і гавораць.

Нагадаем, што ў гэтым годзе не толькі Мясніковіча можна павіншаваць з беларускамоўным дэбютам. На ўрачыстым сходзе на Дзень Незалежнасці нечакана і сам Аляксандр Лукашэнка вялікую частку прамовы зачытаў па-беларуску. Дыпламаты, якія прысутнічалі на гэтым мерапрыемстве, потым расказвалі, што адразу адчулі нешта незвычайнае. Кажуць, Лукашэнка перад выступленнем быў вельмі сур'ёзны, заўважна хваляваўся. Але калі зала ўзарвалася апладысментамі, пачуўшы з яго вуснаў беларускую гаворку, ягоны настрой змяніўся.

Дарэчы, прэм'ер-міністр з беларускай прамовай справіўся не горш, чым кіраўнік дзяржавы. Галоўнае — практыка.

### ДАРЭЧЫ

Згодна з артыкулам 4 Закона аб мовах, ведаць беларускую мову павінны ўсе дзяржаўныя чыноўнікі.

Артыкул 4 гэтага закона гучыць так: "Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў і іншых арганізацый павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў".

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

